17

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР





Пакрыўджаны: ня прынялі яшчэ яго ў атрад...

# Нашы нагляданьні.

## Мае нагляданьні за шпакамі.

У адным з нумароў „Б.П." быў зьмешчаны артыкул: „Прываблівай птушак", у якім даюцца паказаньні, як зрабіць шпакоўніцу. Кіруючыся гэтымі паказаньнямі, я зрабіў шпакоўніцу і ў канцы сакавіка прыбіў яе на нявысокую жэрдку на двары, недалёка ад вакна. З тае прычыны, што сухога торпу ня было, на дно я насыпаў адных пілавіньняў. Шпакі зьявіліся 28-га красавіка, рана, некалькі пар, і пасьля нядоўгае бойкі адна пара заўладала шпакоўніцай. Пры гэтым шпакі нарабілі столькі шуму, што разбудзілі ўсю сям'ю.

Першыя дні шпакі прылятали толькі рана і ўвечары, выкідалі пілавіньне і насілі саломку. Спачатку шпакі часта пужаліся, пры нязначным шуме вылятали з шпакоўні.

Калі самка несла яйкі, самец сядзеў на хвоі ля шпакоўні і сьпяваў. Калі самка сядзела ўжо на яйках, самец прыносіў ёй яду, асабліва часта прылятаў у апошнія дні перад вывадам дзяцей. 7-га чэрвеня шпакі вывеліся. Гэты дзень старыя шпакі ўвесь час былі ля шпакоўні: выкідалі лушпавіны і насілі чарвякоў.

У той-жа дзень я знайшоў пад шпакоўніцай лушпавіны ад яйка, дзьве палавінкі ўкладзеныя адна ў другую, яшчэ мокрыя.

З першага-ж дню пасьля вываду, маладыя шпакі моцна пішчалі, сьціхаючы толькі на ноч. Старыя шпакі працавалі цэлы дзень, носячы корм птушанятам. За дзень шпакі прыносілі больш сотні штук розных казюлек і чарвей. Самка, вылятаючы з шпакоўніцы, заўсёды выносіла памёт птушанят і гэтак абчышчала гняздо. Праз тыдні паўтары птушаняты сталі высоўваць галоўкі з шпакоўні і ня так ужо моцна пішчалі. На 18 дзень пасьля вываду, 25-га чэрвеня, шпакі паляцелі. Прылятали ўсяго раз, на трэці дзень, і больш не зьяўляліся. Цікава зазначыць, што перад адлётам шпакоў, да шпакоўні стала часта падлятаць сіваронка, і калі шпакі паляцелі, яна хацела вывесьціся ў ёй, але ня ўлезла праз дзірку. Цяпер у шпакоўні жывуць вераб'і.

**Шарупіч.**

## Гадуем рыбак.

26 чэрвеня мы ўзялі звычайны кошык і пашлі лавіць рыбу для нашага самаробнага акварыуму.

Гэтак мы злавілі тры маленькія рыбкі—карасі. Даўжыня іх была па 6 сант. З вялікай радасьцю прынесьлі мы рыбак дамоў і ўпусьцілі ў свой акварыум.

*(Працяг гл. на 3 ст. вокл.).*

## ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!





# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

№ 17 ВЕРАСЕНЬ 1928 г.

## ПІОНЭРЫ і ВУЧНІ!

ШТО ВЫ ЗРАБІЛІ ДЛЯ ПАШЫРЭНЬНЯ ЧАСОПІСІ?
ЦІ ВЫПІСВАЕ ВАШ АТРАД, ШКОЛА ЧАСОПІСЬ „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“?











# Чабан

*Апавяданьне* **В. Патапенкі.** *Малюнкі* **Вало.**

Чабан, выхаванец прывольнага казацкага стэпу,—чыстая сірата, бяз роду і плоду. Яшчэ хлопчыкам будучы, пашоў ён сьпярша за падпасыча, потым стаў памоцнікам чабана, а далей—чабаном. Іншы раз чабан і ня ведае, у каго ён служыць, хто яго гаспадар, хто плаціць грошы, хто адзяе,—яму гэта ня цікава.

Вольна гуляюць гадавалыя авечкі па шырокім бязьмежным стэпу, авечкі і стэп—гэта ўвесь сьвет, усё жыцьцё чабанова. Калі чабан гоніць ня менш сотні авец, дык такую чараду завуць „шматок“, а некалькі такіх шматкоў (групак) складаюць ужо „атару“ (цэлую чараду). Авечкі пасуцца заўсёды разам па пяць, па шэсьць атар, лікам каля дваццаці або трыццаці тысяч галоў, пакрываючы сабой стэп, на колькі можа дасягнуць зрок. Як хвалі мора, калышуцца яны ў сваёй чарадзе, усыпаныя праменьнямі чарнаморскага сонца, пад доглядам чабаноў, якія складаюць паміж сабою цэлую адміністрацыю (установу). Стары чабан—„атаман“ чабанскага гурту; ён кіруе ўсімі справамі, мае ўладу неабмежаваную над тымі, што падначальваюцца яму, ён-жа чыніць суд і расправу над усімі, як тая матка ў пчалінай калодзе, дае ўсяму лад. Начальнік „атары“ мае сваіх памоцнікаў, і слухаецца ва ўсім „атамана“. У чабаноў ёсьць цэлая капэла сабак-ваўкадаваў—абарона авец і таварышы чабаноў. Чабаны жывуць паміж сабою ў лужа вялікай згодзе. Чабаны зьвязаны з сваім гаспадаром праз гаспадарскага прыказчыка. Ён прывозіць і выдае ім усё, што трэба з яды, адзеньня, абутку. Наведвае прыказчык чабаноў у год раз ці два.

Плата чабанова невялічкая: 2—3 рублі на год, рызманы сякія-такія, як вось шырокія скураныя штаны, гэткая-ж сьвітка, „куйнара“ (шапка з аўчыны барана), лапці і „гайтан“ (раменная шырокая папруга), абвешаны рознымі струмантамі. Тут і нажы, і бізун, і ражок, і шчыпчыкі для абчысткі ран, і шпігінар, і розныя лекі ад усялякіх авечых хваробаў.

У чабаны наймаюцца найбольш гэтак: прыходзіць абяздолены жыцьцём у стэп да чабаноў і кажа, што хоча да іх прылучыцца; справа канчаецца без гаспадара авец, яго ужо потым пры падрахунках страты на чабаноў прыказчык паведаміць.

Усё сваё жыцьцё чабан праводзіць у стэпу пад голым небам.

Калі ён пабудзе гадоў з дзесяць у вёсцы, дык гэта нават і многа, а то ёсьць такія, што ў стэпу вырасьлі і зроду ня бачылі нічога, апрача стэпу. Свае стэповай волі, шырокай свабоды ён не праменяе ні завошта ў сьвеце.

Нават і песьня склалася пра чабана. Дзяўчына сьпявае:

> Ой, чабане, чабане,
> Пакінь авечкі пасьвіць...

А ён ёй адказвае:

> Не пакіну пакуль згіну...

Чабан цэлы век гуляе ў стэпу. Зімою ён з авечкамі сядзіць у сваім „кашы“ перад вогнішчам і адаграе сябе, скарчанелага, прыслухоўваючыся, як вецер гуляе па сьвету беламу.

А калі прыходзіць вясна, а за ёю лета, чабан ажывае, быццам той мядзьведзь пасьля доўгага сну.

Сонца грэе, яму цёпла, ён задаволены. Чабан ляжыць на траве, курыць сваю люлечку, ля яго верны таварыш сабака, наўкола авечкі, і яму больш нічога ня трэба. Але вось „атара“ яго рассыпалася, авечкі ледзь відаць здалёку. Сабакі сьпяць, памоцнікі таксама, трэба зьбіраць атару. Хоць як ня соладка ляжаць чабану на мяккай траве, грэючыся на сонцы, але ён устае. Акінуўшы арлiным поглядам бязьмерную далячынь, ён гукае:—Гэй, цо, балабы!

Быццам гром гудзе пасярод шырокага стэпу—так разьліваецца яго голас. Уся атара натапырвае вушы. Цап—павадыр авец—падкідае ўгару рагамі, аглядаецца на кліч і рухаецца з месца; уся атара быццам па загаду сыпле за ім, зьбіраючыся каля чабана.

* * *

Ён ня ведаў ні бацькі, ні маткі, ня ведаў нават свайго імя, памятае толькі сябе хлопцам-падпасычам, а як ён апынуўся ў стэпу, ня ўспомніць ужо. Старыя чабаны казалі, што яны знайшлі яго ў яме неспавітага, маленькага, далі яму прозьвішча „Цур-Пэк“ (чабаны завуць „Цур-Пэкамі“ ягнят, якія родзяцца без пары), падкінулі яго пад казу і выгадавалі ў стэпу. І стаў яму чарнаморскі стэп замест маткі роднай, замест бацькі. Ня раз зьяўлялася ў яго галаве думка: „Ды чый-жа я сын?“—Мабыць дзяўчыны якой-небудзь, што бяз бацькі радзіла,—адказвалі чабаны.—Але-ж для Цур-Пэка гэткі адказ яшчэ зусім ня быў зразумелым, і ён марыў пра гэта на адзіноце.

Высакавата ўзьнялося сонейка, прыпякае. У стэпу аж млосна. Скрозь ціха, нават трава не зашавеліцца; стэп быццам дрэмле ці прыслухоўваецца да чагосьці, быццам чакае кагосьці. Іншы раз дзе-небудзь яшчарка зашастае, або аса завядзе сварку з аваднём, ці праляціць пчала, празьвініць для ўсіх сваё ці-і-і-і-і, і зноў усё сьціхне. Тут шырока, вольна, усё жыццё дыша воляй, воляй бяз краю, воляй незнаёмай з пашпартамі, воляй бяздомкаў.

Цур-Пэк глянуў у бок,—памоцнікі і сабакі сьпяць, яго-ж атары і ня відаць,—дзесьці зноў схавалася ў моры травы. Вось ён устаў, акінуў арлiным вокам стэп і гукнуў:—Гэй, цо, балабы, цо!..

І як заўсёды, на гэты гук зьбіралася авечае войска.

Цур-Пэк сеў, выняў дудку, і сумная песьня журліваю хваляй палілася па сумным бязьмежным стэпу. І чабан усё йграе, выпявае на дудцы сваю тугу ды глядзіць зьдзіўленым поглядам кудысьці далёка-далёка, дзе зямля сходзіцца з небам. Там у далячыні неба разьліваюцца цудоўныя вазёры, з чароўнымі будынкамі, пра якіх ён чуў у казках ад чабаноў, калі быў яшчэ маленькім.

Сьпявае чабан і сьлёзы іскрацца ў яго на вачох. „Чаго гэта так?“—думае Цур-Пэк.—„Чаго мне не хапае? Сонца грэе, мне цёпла, ля мяне сабакі, авечкі!..“

„Байструк“...—плывуць думкі ў яго галаве.—„Ну, што-ж, такой бяды, вось толькі-б яе пашанцавала ўбачыць, і я стаў-бы іншым чалавекам“.

Верны сабака Жук сядзіць ля яго, ня пускае пары з роту, і слухае чабанову песьню, гледзячы таксама кудысьці далёка, а наўкола іх пасецца стадак.

Аж вось песьня змоўкла. Жук нібы прахапіўся і глянуў на свайго гаспадара.

— А што, таварыш верны,—пытае ласкава Цур-Пэк,—добра нам цяпер?

Сабака замахаў хвастом.

— А ўвосень дрэнна, холадна, мокра, што й легчы нельга!

Жук заскавытаў.

— Ага, вядома, дрэнна. Помніш зіму, як мы ў яме перад вогнішчам грэліся, як вецер стагнаў ды нас сьнегам засыпала? Набраліся мы бяды. Ага, гаўкаеш? Ты-б мяне лепш пакінуў, пайшоў у вёску да людзей, якія-б цябе там прывіталі.

Жук пачаў церці сваёй калматаю мордаю чабаноў твар.

— Ну, веру, веру, што ты мяне не пакінеш.—І ён пагладзіў яго па сьпіне.—А па ваўкох дужа засумаваў?

Вочы ў ваўкадава заблішчалі, і ён забурчаў. Чабан і Жук разумелі адзін другога. Ды яно інакш і не магло быць. Калі ў апошні час Цур-Пэк быў у вёсцы (а гэта было дзесяць гадоў таму назад), ён выцягнуў з канавы сабачку, узяў яго у стэп і выняньчыў за пазухаю, саграваючы сваім целам. Цяпер-жа Жук вялізарны сабака, увелькі з цяля, зубы зьеў на воўчым мясе. Чабан і Жук ніколі

не разлучаліся: разам спалі, разам падзялялі і радасьць, і гора. Засумуе, бывала, чабан, дык і Жук сумуе; весела чабану—і Жуку таксама...

Цур-Пэк выняў з кішэні люльку, напхаў яе тутунём, выкрасіў агню і закурыў. Кружочкамі пацягнуў сівенькі дымок над галовамі шчасьлівых таварышоў. Падышоў баран (павадыр авец), стаў на заднія ногі і палажыў пярэднія чабану на плечы. Жук, убачыўшы такую рэч, падскочыў і адцягнуў рагатага за вуха ў бок. Баран пачаў тузацца з сабакам.

— Годзе, годзе!—крыкнуў Цур-Пэк на іх усьміхаючыся. Кінуўшы бойку, барацьбіты падыйшлі да чабана і палеглі ля яго ног. Авечкі ўсьлед за бараном таксама палеглі.

Чабан думаў ня толькі пра тое, хто была яго матка. Пачуўшы, як грукоча гром, ён не разумеў, што гэта такое, у яго галаве нешта такое шавялілася, што не давала яму спакою. Ён упіваўся вачыма ў бліскавіцу, прыслухоўваўся, як вые вецер, як шуршыць трава. Думаў аб тым, чаму гэта ад аднэй травы авечка робіцца тоўстай, а ад другой—сохне. Зьбіраў розныя зёлкі, варыў іх і даваў авечкам, але з гэтага нічога ня выходзіла.



*...браў нож, цэліўся ім...*

Кожны дзень думаў Цур-Пэк, думаў і ні да чога не дадумаўся. І ў такія хвіліны ён станавіўся нейкім нязвычайным. Ён хваляваўся, лаяўся, браў нож, цэліўся ім, быццам хацеў некага зарэзаць, біў сябе кулаком у грудзі, абнімаў Жука, цалаваў яго, адпіхаў ад сябе, зноў клікаў, гладзіў і прасіў прабачэньня.

Потым вымаў дудку, і цудоўная стэповая песьня лілася далёка ад заплаканых вачэй дзікара. І супакойвалася яго ўзбуранае сэрца.

Тады ён хацеў абняць увесь сьвет, ды так абняць, каб расьціснуць сваё сэрца, каб яно больш ня білася.

Шмат чаго перадумаў на адзіноце чабан, але яго думкі захаваў нямы стэп, іх ніхто ня ведаў. Можа адчуваў іх хіба адзін Жук, можа таксама пакутваў за свайго таварыша, і шмат чаго переказаў-бы, ды ня было ў яго мовы.

Вось адзін раз у такую хвіліну Цур-Пэк прыпаў вухам да зямлі. Жук натапырыў вушы. Праз некалькі хвілін зазванілі званочкі, што раз усё прыбліжаючыся да атары. Сабакі ўсхапіліся, забрахалі і кінуліся кулём наперад.

Атара заварушылася.

— Ціба!—гукнуў чабан, і сабакі спыніліся, кожны пашоў на сваё месца.

Пад'ехала тройка добрых коняй, а наўкола яе пяць сялян верхавых. На возе сядзеў ураднік. Чабан і Жук аглядалі з цікавасьцю няпрошаных гасьцей. Ураднік зьлез і пашоў да Цур-Пэка. Сяляне пазлазілі з коняй і пашлі за ім.

— Чые авечкі?—спытаў парасійску ўраднік чабана.

— Панскія.

— А хто пан?

— Ня ведаю.

— Як гэта—ты ня ведаеш, у каго служыш?

— Навошта мне ведаць? Я ўсё дастаю праз панскага найміта, які нас наведвае.

— Дзе Янка Патлаты?

— Хто?

— Патлаты Янка!

— Янка?

— Ага!

— Такога ў нас няма.

— Няпраўда!.. Ты хто такі?..

— Чабан.

— Як цябе завуць.

— Цур-Пэк.

— А Імя?

— Імя?.. Імя?.. Імя?..—Чабан!..

— Дык гэта-ж твой занятак, а імя як?

— Кажу—Чабан!

Сяляне засьмяяліся.

— Дурны,—крыкнуў ураднік.—Якой ты веры? Богу молішся?

Цур-Пэк перахрысьціўся.

— Ну, значыцца, праваслаўны!.. Як-жа цябе завуць: Янка, Пятрусь, Мікола?..

— Цур-Пэк.

— Цьфу! Пакажы свой пашпарт!

Цур-Пэк вытарашчыў вочы, нічога не разумеючы.

Жук пaглядаў то на свайго гаспадара, то на госьця.

— Твой від на жыцьцё?

— Мой від?

— Так!

— Глядзеце, я-ж вось тут і жыву.

Сяляне пырснулі сьмехам.

— „Папера“ такая для жыцьця выдаецца!—паясьніў ураднік.

Цур-Пэк пацінуў плячыма і пакруціў галавою.

— Бяз пашпарту жыць ня можна!

Чабан усьміхнуўся.

— Вось гэта я ўпяршыню чую, каб бяз нейкай там „паперы“ жыць ня можна было!

— Як гэта? Я жывы чалавек, а ў мяне вашай паперы няма; ды навошта яна мне патрэбна?

— Навошта, навошта! — дражніў яго ураднік.—А для таго, каб ты, „разявака“, мог вольна жыць.

— Дык мне-ж у стэпе і так вольна: куды захачу, туды й пайду!

Ураднік са злосьці пабялеў, як крэйда.

— Я цябе, паганец, пытаю апошні раз: ёсьць у цябе пашпарт?

Цур-Пэк глянуў на Жука, нібы пытаючы ў яго:—„Што, Жук, ці ня ведаеш пра што ён нас пытае?“

Сабака замаргаў вачыма.

Чабан нібы зразумеў і так адпаліў:

— Не, няма ў нас гэтага, і колькі жывем, дык пра гэта ніколі ня чулі.

— Лжэш, сабака! Ты і ёсьць Янка Патлаты, ты хаваешся: ты—валацуга, уцёк з Сібіру, я цябе па асаблівых прыкметах пазнаў!

Цур-Пэк не разумеў, што гэта такое „Сібір“, што гэта азначае „валацуга“, адкуль ён мог уцячы, хто і для чаго яго шукае, чаго ад яго хочуць, што на яго сьпіхаюць. Ён стаяў зьдзіўлены.

— Ты пойдзеш, чалавек, за намі!..

— Куды? Чаго, калі мне й тут добра?.. Нікуды я адгэтуль не пайду!

Ураднік аж затросься і ўхапіў Цур-Пэка за плечы, але-ж у гэту самую хвіліну скокнуў Жук на грудзі ворагу, і калі-б той сваечасова ня выпусьціў з рук чабановых плячэй, сабака напэўна перагрыз-бы яму горла.

— Ціба!—крыкнуў чабан.

Жук апусьціўся на зямлю. Вураднік выцяў сабаку бізуном, але твар чабана ў гэты-ж міг загарэўся агнём, у вачох прабегла быццам бліскавіца, а ў руцэ яго заблішчаў вялізны нож.

— Сябе дазволю біць, але за сабаку я табе жывот распару!

Ураднік выцягнуў шаблю і закрычаў на сялян:

— „Узяць гэтага разбойніка!“

Тыя, убачыўшы нож у расьсердаванага зьвера, зрабілі нехаця крок наперад і спыніліся. Жук, наставіўшы шэрсьць, забурчаў на ворага.



*Узяць гэтага разбойніка!*

Чабан сьвіснуў і праз хвіліну ўсе сабакі-воўкадавы абхінулі яго, выскалілі зубы і толькі чакалі загаду гаспадара—каб разарваць гасьцей на кавалачкі. Госьці замерлі, бо сілы былі няроўныя. Цур-Пэк, заклаўшы нож за пояс, склаў рукі на грудзі і сказаў да сялян:

— Ну чаго-ж сталі? Бярэце, калі велёна!

Здалёк відаць было, як беглі таварышы Цур-Пэка на дапамогу.

Сяляне агляну ліся ды ходу на канёх адгэтуль.

Так і паехаў бяз нічога вураднік. У стэпу стала зноў ціха.

Баран устаў, пашоў наперад і ўся чарада за ім. А пасярэдзіне йшоў вялічава Цур-Пэк з Жукам, узьняўшы горда галаву.

На другі дзень зноў прыляцеў вураднік, а за ім дзесяцёра верхавых са стрэльбамі. Аднак, ім зноў давялося павярнуць аглоблі ад Цур-Пэка, бо сустракаць іх вышлі чабаны з нажамі.

Мінуў тыдзень; у стэп прышоў пасыльны і заявіў Цур-Пэку, што ў вёску прыплялася яго старая матка, і хоча з ім хоць перад сьмерцю пабачыцца, што яна такая хворая... Ад гэтай весткі чабан задумаўся, потым неяк ясна ўсьміхнуўся, ударыў „куйнарою" вобземлю і гукнуў:—Жук!—Потым аглядзеў усё навокал і засьпяваў:

Гэй, ды стэпы-ж мае,
Гэй, ды шырокія...

І два неразлучныя таварышы папляліся ў бок вёскі. Цур-Пэк адыходзіў усё далей і далей ад атары... А неўзабаве чарнела толькі яго „куйнара". Ён агляну ўся, кінуў астатні погляд на атару, уздыхнуў цяжка і зьнік з відавоку.

* * *

Раніцай падыходзіў чабан да вёскі. Чырвонае сонца з-за небасхілу выглядвала сваёй першай паловай. Густа сівы туман узьнімаўся дагары шырокімі палотнамі. Вецер ледзь дыхаў; белыя украінскія хаткі-мазанкі ясьнелі паміж зялёнымі садкамі, што ўмываліся ў расе, блішчалі ад узыходзячага сонца. Вёска ажывала: з камінoў сачыўся дымок; адчыняліся вароты, рыпалі вазы, сяляне выяжджалі ў поле. Пастух зьбіраў сваю чараду; бабы выганялі скаціну, якая рыкала ўсё мацней і мацней...

Аж вось сонца ўзьнялося, туман расплыўся і шырокай бліскучай люстэркай на месцы туману вызначылася рэчка. На рэчцы сядзела русая дзяўчына і пасьвіла гусей, рабіла з сітнягу „качачкі" і пускала іх на ваду. Калі-ж яна глянула на бок, напалохалася і, быццам апараная, залапатала проста ў вёску, лемантуючы:—Чабан, чабан ідзе!..

Убачыўшы Жука, сабакі аж заліліся, гаўкаючы. Людзі пазіралі на чабана, як на якое дзіва. Дзетвара хавалася за спадніцы кабет, смокчучы рукавы сваіх сарочак і баязьліва паглядаючы з-пад ілба. Пад плотам дзьве дзяўчынкі шчабяталі між сабою:

— А глядзі, які стан бравы!—казала адна да другой.

— Што стан,—ты паглядзі, якія ў яго бровы, вочы!

— Матачкі, які прыгожы!

— Што і казаць, адным словам—арол!

— Вось каб мне такога чалавека!—сарвалася з языка ў аднае з дзяўчат.

Чабан глянуў на іх. Дзяўчата засароміліся і кінуліся са сьмехам у хату, адкуль ужо выглядалі іх абліччы, чырвонаружовыя, як макавы цьвет. Адзін чалавек спыніўся, зьмераў вачыма чабана-волата, пачухаў патыліцу і сказаў:

— Вось хлапчына, дык хлапчына! Сапраўдны галіяф![1])—потым добра вылаяўся, гэта значыцца ён пахваліў волата, ды так, што дзяўчата аж горш ад гэтага зачырванеліся ды схаваліся за сьцены хаты.

Чабан уважліва, з цікавасьцю разглядаў незнаёмыя яму рэчы. Яму ў той час было неяк нядобра: яго чамусьці браў страх, ён адчуваў сябе нібы той воўк, якога злавілі ў клетку. Праваднік прывёў яго дахаты, дзе на страсе відаць была бляшаная дошка, а на ёй было надрукавана: „Валаснoе праўленьне". Чабан увайшоў у воласьць.

— Табе чаво трэба?—спытаў старшыня, стараючыся гутарыць памаскоўску.

— Ды... тут... казалі... мая матка... слабая... Дык вось я і прышоў...

— Паждзі, любезны, на дварэ і ажыдай спакойна чаргі.

---

[1]) Старажытны міфічны чалавек—вельмі дужы.

Цур-Пэк з усяе размовы толькі і зразумеў, што трэба пачакаць на дварэ. Гэта ён і зрабіў,—сеў на прызбу, а Жук лёг ля яго ног.

Гурт цікавага люду ўсунуўся ў вароты. Чабан нікога ня бачыў; ён падпёр далонямі галаву і глядзеў у зямлю. На панадворак узьехаў знаёмы ураднік. Чабан адчуў штосьці нядобрае. Жук забурчаў.

— Зьвязаць паганца!—закрычаў ураднік на ўсё горла да соцкіх, паказваючы пальцам на чабана.

Ніхто ня рушыўся з месца.

— Вось-жа маткі і няма?!—вырвалася з грудзей чабана. Галава яго ўпала на грудзі, а шапка на зямлю. Чабан зьняў з сябе гайтан (кабура) з нажамі і сам аддаў іх старшыні. Усе зьдзівіліся. Тады падышлі да яго соцкія. Жук выскаліў зубы.

— Ня руш!—сказаў чабан.

Цур-Пэка зьвязалі; ён стаяў спакойна і зусім цяпер ня быў падобны на лютага зьвера, выхаванца вольнага стэпу, а выглядаў пакорным дзіцям. З Жукам таксама штосьці зрабілася. Падабраўшы хвост і выцягнуўшы лапы, сабака быццам таксама прасіўся зьвязаць і яго. Па загаду ўрадніка чабан увайшоў зноў у хату. Жук-жа астаўся ляжаць на дварэ. У воласьці ўчынілі допыт, пісалі, палілі сургуч, адбівалі на паперы пячатку. Калі чабан зноў вышаў на двор, Жука тут ён не застаў.

— Жук, Жук!—клікнуў ён на свайго таварыша.

Толькі жаласнае выцьцё пачулася з зачыненай пуні. Жука заперлі.

У чабана бліснулі вочы, зубы заскрыгаталі, а твар пабялеў. Ён памкнуўся да клуні, але ўзброеныя соцкія атачылі яго і павялі ў губэрню. Праз усю дарогу Цур-Пэк ішоў задумлены.

— Жук вые... заб‘юць яго!..—думаў чабан.

У губэрні ў судовага сьледаваўцеля зноў яго дапытвалі, пісалі, зноў некуды павялі. Цур-Пэк не разумеў, што гэта з ім робяць? Калі і на чым гэта ўсё скончыцца. А вось прывялі яго ў турму. Цяжкія жалезныя дзьверы скрыпнулі, адчыніліся; зазьвінеў замок і палажыў канец вольнаму жыцьцю чабана.

Калі скончыўся допыт, разьвязалі Цур-Пэку рукі і ўпусьцілі да арыштаваных, якія пры гэтым заварушыліся і загулі, нібы рой. Усе дзівіліся з волата. Цур-Пэк сеў і паглядзеў несамавіта вачыма. Арыштаваныя абхінулі яго і сьмяяліся.

— Нічога, прывыкнеш!—пакепліваў злодзей-цыган.—Не сапі, не надзімайся, як скурат на агні, а то лопнеш!.. Начальства сьлёзы праліваць будзе!..

Група арыштаваных зарагатала. Цур-Пэк устаў, арыштаваныя кінуліся ў бок і ён пашоў да дзьвярэй, цяжка дыхаючы, вочы загарэліся агнём, губы пабялелі. Усе замоўклі і чакалі, што будзе далей.



*...Знайшлі яго мёртвым. Жук жаласна выў.*

— Куды лезеш? Што прыкідаешся дурнем?—крыкнуў на яго нейкі афіцэрык і штурхнуў чабана ў грудзі. Угары ўзмахнуўся вялізны кулак, і наглядчык-афіцэрык гакнуўся, як сноп, вобземлю.

Пасьля гэтага Цур-Пэка пасадзілі, па загаду начальства, на другі паверх, у „адзіночку“.

Трэці месяц сядзіць чабан у турме, ня ведаючы за вошта.

— Калі выпусьцяць?—неяк аднойчы запытаўся ён у аднаго валацугі-арыштанта.

— А ліха іх матку ведае! Як суд рассудзіць...

Але слова „суд“ было такім самым гукам для Цур-Пэка, як і слова „пашпарт“.

* *
*

Ноч. Усе сьпяць. Ціха. Чуваць толькі роўныя шагі вартаўніка ды выгукі: „Хто ідзе?“ Ня сьпіцца чабану. Слабыя стагнаньні вылятаюць з яго грудзей, б'юцца аб зашмальцованыя сьцены яго сумнага пакою і зноў варочаюцца да арыштанта. Ніхто яго ня чуе. Чабан качаецца на сырой, такой-жа, як і ўся турма, саломе. Яму млосна. Млявы, ён спаў з твару; яго агортвае сум па сваёй бацькаўшчыне, па шырокаму вольнаму стэпу. Чабан два дні ўжо нічога ня есьць.

— Жук... Што з ім!.. Толькі-б убачыць яго, толькі-б адзін раз, толькі-б адзін раз дыхнуць у стэпу, а тады... тады...

Перад ім малюецца стэп. Вось Цур-Пэк бачыць сябе, што быццам ён сядзіць на пахучай траве, іграе сабе на дудцы, а Жук і баран забаўляюцца з ім, а навокал атара... „Твой пашпарт“— чуецца слова ўрадніка. За што мяне мучаць? За што сюды кінулі мяне, як зьвера? Навошта разлучылі з Жукам? Я жыў у стэпе і мне добра было, і Жуку таксама. Я тады быў дужы, а цяпер... рукі дрыжаць, грудзі ўпалі... Тут сумна, няма чым дыхаць, а ў стэпу вольна... Жук!.. Бедны Жук!.. Яго таксама заперлі. Ён вые...

Чабан скочыў борзда з саломы і глянуў у вакно, і быццам скамянеў на месцы. З-за хмары выплыў месяц і асьвяціў ноч. Далёка чарнеўся стэп.

— Вые, вые!—шэпча Цур-Пэк. Вялікія кроплі халоднага поту ўскрылі яго шырокае аблічча.—Вые... Гэта ён... Як леў, кінуўся чабан да вакна, ухапіўся за крату жалезную і рвануў яе колькі разоў. Крата падалася. Праз хвіліну Цур-Пэк быў ужо за мурамі турмы...

Недалёка і сапраўды чулася выцьцё Жука. Чабан бег. Заляскаў затвор стрэльбы. Бухнуў стрэл вартаўніка... Турма прачнулася, заварушылася... Пахудняўшы Жук, які валок за сабою перагрызеную вяроўку, кінуўся на шыю чабану пад стрэлы вартавых.

— Барджэй, барджэй, таварыш, у стэп!.. Стой... Дух заняло... Што гэта... У грудзі коле... Ледзь прамовіў Цур-Пэк, спатыкаючыся, і як, сноп, паваліўся на землю... Вартаўнікі, якія кінуліся з турмы на ўздагонку за Цур-Пэкам, знайшлі яго мёртвым. Жук жаласна выў, прытуліўшы калматую морду да прастрэленых грудзей бяспашпартнага таварыша.

*З украінскае.*



# Ісак Ньютон

*Нарыс* Ул. Чараўкова. *Мал.* Б. Пакроўскага.

### Першы іспыт.

У той далёкі час у гарадзкіх школах Англіі былі суровыя парадкі. Веды, асьвету ўбівалі ў дзіцячыя галовы палкамі, жорсткімі карамі. У Грантамскай школе адзін настаўнік-свавольнік хваліўся тым, што ў яго было на дзень па восемнаццаць розных пакараньняў у клясе. Гэткае выхаваньне рабіла жорсткімі і саміх дзяцей. Сярод іх пашыралася шпіёнства, нялюбоў да слабых, і асабліва зьдзек над навічкамі, якіх абзывалі заўсёды з пагардай „рэччу".

У гэтых нязвычных для яго абставінах Ісак адразу засумаваў. Ахвота вучыцца ў яго прапала.

Але такое яго становішча не магло цягнуцца доўгі час. У прагнай яго душы ўжо прачнулася імкненьне да ведаў. Патрэбен быў толькі выпадак, які-б яго накіраваў на другі шлях. І гэткі выпадак хутка адбыўся.

У часе адпачынку паміж лекцыямі Ісак стаяў у садзе школы ля плоту і глядзеў на гульні дзяцей. Яму і хацелася прыняць удзел і ў той-жа час ён баяўся, што яго, як навічка, будуць крыўдзіць.

— Глядзі, Боб, вунь „рэч" вольная! Што-б нам з ёю зрабіць?—крыкнуў худы, высокі хлапчук свайму тоўстаму сябру, паказваючы са сьмехам на Ньютона.



*...веды дзецям убівали палкамі...*

— А вось я зараз папробую, ці моцна яна зроблена гэта „рэч",—весела адказаў той і, размахваючы рукамі, бягом кінуўся да плоту.

Не пасьпеў Ісак скеміць, чаго ад яго хочуць гэтыя дурасьліўцы, як Боб нагнуў галаву і з разьбегу стукнуўся яму ў жывот.

Ад моцнага ўдару Ісак завойкаў і паляцеў дагары. Тут-жа з крыкамі яго абкружылі дзеці.

— У чым справа?—праціскаючыся праз натоўп дзяцей, запытаў наглядчык.

Ньютон ледзь узьняўся з зямлі і, трымаючыся рукамі за жывот, слабым ад болю голасам сказаў:

— Нічога: я незнарок наляцеў на плот.

Ньютон ня выдаў свайго крыўдзіцеля і праз гэта заслужыў агульную павагу ў школе. Але ён сам парашыў адпомсьціць яму. З прычыны таго, што Боб у школе вучыўся адным з лепшых вучняў, Ісак парашыў дасягнуць таго, каб стаць самому адным з лепшых вучняў. Гэткаю была помста Ісака Ньютона.

І сапраўды, вельмі хутка Ісак выперадзіў Боба і стаў самым першым вучнем.

### Ньютон—вынаходца.

Ісак хутка пачаў выяўляць усе свае багатыя здольнасьці. Ужо з малых год аб ім пачалі гаварыць са зьдзіўленьнем.

Зімою даводзілася йсьці на заняткі яшчэ поцемкам. Аднаго разу вучні, зьбіраючыся ля цёмнага ганку школы, заўважылі сьветлы вагеньчык, які, хістаючыся, плыў да іх у цемры. Вучні пачалі са зьдзіўленьнем углядацца ў яго. Выявілася, што гэта ішоў на лекцыі Ньютон і нёс штучна склееены папяровы ліхтар. Танна, проста і прыгожа.

Наогул ён любіў прыдумліваць штонебудзь для сваіх новых сяброў і ўносіць differences рознастайнасьць у іх гульні. Усялякімі хітрыкамі ён удасканаліў папяровага зьмея і навучыў вучняў запускаць яго.

Ісак парашыў аб'яднаць гэтыя свае першыя вынаходкі. Выбраўшы асабліва цёмную ноч, ён запусьціў з сябрамі на



*Гэта ішоў на лекцыі Ньютон...*

вялікую вышыню вялізнага папяровага зьмея з прывязаным да яго хваста запаленым ліхтаром. На другі дзень у горадзе толькі і гаворкі было, што аб камэце, якая зьявілася ў гэтую ноч.

Увесь вольны час дома Ісак быў заняты працаю. Ён заўсёды што-небудзь пілаваў, стругаў, прыбіваў. На свае мізэрныя грошы ён накупляў сабе патрэбных інструмантаў і займаўся ўсё новымі сваімі вынаходкамі.

Калі ля Грантаму пачалі будаваць вятрак, Ньютон кожны дзень хадзіў туды і прастойваў там гадзінамі. Іншы раз ён браў з сабою сяброў. Але сябрам хутка абрыдвала, і яны ўцякалі, заяўляючы:

— Што тут цікавага? Вось збудуюць, тады прыдзем і адразу ўсё агледзім.

Але Ісак ня быў такім. Праз некаторы час ён цішком паклікаў некаторых сваіх сяброў да сябе на кватэру і, падыходзячы да дому, паказаў ім на страху. Крык зьдзіўленьня вырваўся ў дзяцей. Дасканалая копія ветрака, таго, што будуецца ля Грантаму, але ўжо ў гатовым і, зразумела, зьменшаным выглядзе, хутка круціла па ветры сапраўдныя крыльлі ветрака. Потым юны вынаходца прыдумаў для свайго ветрака і жывы рухавік. Ён пасадзіў у сярэдзіне мыш і, тузаючы за шнурок, што быў прывязаны да хваста мышы, прымушаў яе бегаць па клясе і гэтым самым круціць крыльлі.

У доме, дзе жыў Ньютон, ня было гадзіньніка, і гэта вельмі адбівалася на вучнях, бо яны ня ведалі, калі трэба йсьці ў школу, а ў аптэкара Кларка было шмат кватарантаў-вучняў. і тут Ісак дапамог бядзе. У гэтым доме зьявіўся вадзяны гадзіньнік. Кожны дзень Ньютон наліваў у асаблівую зробленую ім прыладу ваду, якая каплямі вылівалася з яе, і праз гэта прыводзіла ў рух дзеравяны пацурбалак (абрубак), а гэты апошні; узьнімаючыся і апускаючыся, прыводзіў у рух стрэлкі цыфэрбляту. Усё гэта спачатку да канца было зроблена самім Ісакам. Усе карысталіся спраўным і дакладным гадзіньнікам.

Сярод кватарантаў Кларка была дзяўчынка, з якою вельмі пасябраваў Ньютон. Каб зрабіць ёй прыемнасьць, ён змайстраваў павозку-самаход на чатырох колах. У павозцы можна было сядзець і, круцячы за ручку, ехаць з якою хочаш хуткасьцю.

**Матэматыка і авечкі.**

Але неўспадзеўкі гэта жыцьцё рассыпалася і разьляцелася ўшчэнт. Калі Ньютону адбылося 15 гадоў, матка яго ў другі раз заўдавела і вярнула сына да сябе ў вёску...

— Ды ты ня рады ці што, што дахаты прыехаў?—пакрыўджаным тонам запытала Гэнрыета, заўважыўшы журботнасьць сына.

— Не, не, мама. Я вельмі цябе люблю,—борзда адказаў Ісак,—толькі мне рашыць тут трэба...

— Што рашыць?

— Задачу, мама. Я яе сам выдумаў...

— Ах, які ты дзівак!—нават пакрыўдзілася Гэнрыета,—забілі галаву тваю там зусім. Давай вось лепш рашаць задачу, як гаспадарку весьці.

— Добра, мама,—пакорліва сказаў Ісак.

Праз некалькі дзён трэба было паслаць работніка Джэка ў кузьню паправіць павозку, і матка даручыла Ісаку наглядаць за авечкамі.

— Не бяры з сабою сшытка,—строга сказала яна, бачачы, што сын з самай раніцы засеў рабіць нейкія вылічэньні,—бо авечкі ў цябе рассыплюцца нямаведама куды.

Ісак уздыхнуў і пайшоў замяняць Джэка.

Мінула дзьве гадзіны. Гэнрыета капалася на агародзе. Раптам пачула тупат нечыіх ног. Гэнрыета выпрасталася і, прыклаўшы руку ад сонца да вачэй, прыгледзілася. Па дарозе бег, засопшыся, увесь чырвоны Ісак.

— Што такое?—напалохалася матка.

— Рашыў! Рашыў!—Радасна закрычаў Ісак і схаваўся на дварэ.

Гэнрыета пабегла за ім. Ісак ужо сядзеў у хаце за сталом і борзьдзенька нешта пісаў у сваім сшытку.

— Ты што-ж гэта?—зьдзіўленай спынілася матка на парозе.

— Зараз, зараз, мама,—сярдуючы адмахнуўся Ісак, які ўвесь аддаўся вылічэньням,—толькі што задачу сваю рашыў.

— Але авечкі дзе?—прастагнала Гэнрыета.

— Авечкі і дапамаглі. Я іх пералічваў,—скорагаворкай адказаў Ісак,—ды пачакай, мама, не перашкаджай!

Гэнрыета схапілася за галаву і пабегла зьбіраць авец.



*На небе быў зьмей з ліхтаром.*

**Ці шалёны, ці вялікі чалавек.**

Кожную суботу Ісак езьдзіў разам з Джэкам у Грантам прадаваць хлеб і гародніну. Прыехаўшы дамоў, хітры Джэк моцна трымаў язык за зубамі. Калі толькі яны пад'яжджалі к дому Кларка, Ісак саскакваў з возу і казаў:

— Ну, ты, прадавай там, Джэк, а я займуся трохі справай.

Тут, у аптэкара Ньютон запіраўся ў яго ў бібліотэцы са старажытнымі кнігамі, не заўважваў, як бяжыць час. Іншы раз адсюль Ісак ішоў за горад. Там ён лажыўся пад плотам ля дарогі з кнігаю і сшыткам у руках. Джэк, скончыўшы справу, заяжджаў да аптэкара і, калі не знаходзіў там Ісака, ведаў, што ўбачыць яго на ўмоўленым месцы.

Аднаго разу Ісак вельмі зацікавіўся кнігай. Неспадзявана пачуўся суровы голас:

— А ну, дай сюды гэта чытаньне!

Перад Ісакам стаяў яго дзядзька.

— Гэта што-ж, ты цэлы дзень так і сядзіш за гэтымі лічбамі?

— Так,—ціха адказаў вінаватым голасам Ісак, апусьціўшы галаву.

Дзядзька пакруціў кніжку ў руках.

— Так. Ну, лезь у павозку.

Калі ўзьехалі на двор, дзядзька, скокнуўшы з павозкі борзда зашагаў у хату.

— Будзе нам з табою, Джэк, сказаў Ісак работніку, безнадзейна махнуўшы рукою.

Ён прасядзеў некалькі хвілін у сумных марах, потым рука яго нерашуча палезла за пазуху, дастала кніжку і разгарнула на патрэбнай старонцы. Нібы нехаця, адным вокам Ісак заглянуў у яе і... забыўся аб усім.

Неўспадзеўкі пачуўся моцны сьмех.

— Ну, хадзі-ж сюды, Гэнрыета!—крычаў дзядзька з парогу,—ды ён-жа і вухам не вядзе!

— Ну, што з табою рабіць,—усхліпваючы, сказала матка,—твой дзядзька пераканаў мяне. Заўтра паедзеш у Грантам вучыцца, а з гаспадаркаю я ўжо як-небудзь сама...

Ісак ледзь не задушыў іх у абдымках.

— Памятайце маё слова, Гэнрыета,—казаў дзядзька на разьвітаньне,—ён або сыдзе з розуму, або будзе вялікім чалавекам.




*Верш* Г. Асота.

*Малюнкі* Філіповіча.

Залатое лета,
Сенажаць адзета
Кветкамі, травою,
А над галавою
Адплываюць хмары.
Весела абузе
На шырокім лузе
Паскакаць на палцы,
Пасьвістаць на паль-
цы.
Весялей-жа ў лесе,
Дзе гальлё разьвесіў
Дуб стары над елкай,
Дзе гуляюць белкі,
Дзе рака віецца,
Бягучы сьмяецца,—
Там жывуць на рада-
сьць
Лягеры атрадаў.
Раніцою звонкай
Чуецца гамонка,
Быццам-бы званочкі,
Звоняць галасочкі.
А у дзень над рэчкай
Зашасьцяць парэчкі;
Хвалі расшумяцца,
Як пачнуць купацца.
Залатое лета,
Сенажаць адзета
Кветкамі, травою,
А над галавою
Адплываюць хмары.
Сьветлых мараў кры-
льлі
Мчаць дзяцей у вы-
рай,
Ў цёплыя краіны
На ліхой машыне.
Вось аднойчы мары
Зацьвілі пажарам;
Дзеці не жартуюць,—
Карабель будуюць.
Нацягнулі дошчак
І прыстанак мосьцяць.
Зашумелі хвалі.
Воды зазлавалі.
Дзівяцца парэчкі,
Гледзячы на рэчку.
Дзеці-ж не жартуюць—
Карабель будуюць.
Палубу смалою
(Ой бяда з вадою)
Прасмалілі моцна—
Можа й не прамокне.
Вось і ўсё гатова:
Пазалотай новай
Аж гарыць, зіяе
Мачта залатая.
Не хапае толькі
Палатна дзьве столкі
І няма вяровак,
І няма дылёвак,
Начапіць, каб ветразь
Для ліхога ветру,
І стырно прыладзіць
Для трыманьня ладу.
Яшчэ рак ня сьвішча,
А ўжо ёсьць і выйсьце:
Склалі па капейцы,
Ды купілі лейцы,
А за саракоўку—
Лепшую вяроўку;
Палатна купілі
У чатыры дылі.
Нацягнулі ветразь
Ды чакаюць ветру.
Дзень сядзяць—ня-
чутна,
Лозы нат ня гнуцца;
Мо' схіснуцца лейцы?
Толькі, як на ліха,
Ўсё наўкола ціха,
Здэцца на паўгода
Надышла пагода.
Бачаць, што ня жарты—
Больш чакаць няварта
Ганарыстых ветраў.
Паламалі ветразь,
Начапілі вёслы
І пачалі гойсаць.
Сядзе хлопцаў двац-
цаць—
Любата катацца!
Ай, да піонэры,
Проста—інжынэры!



# Сусьветная паветрыя.

*Апавяданьне* **Анры Барбюса.**

Усё наўкола было напоена цеплатой і яркім, асьляпляючым зрок, сьветам. Усюды кветкі, зяляніна, сінь мора і сонца, сонца—над усім узьбярэжжам.

Яны сабраліся ў цяньку каменнай будоўлі, сярод грудаў цэглы і цамэнту. Усе былі ў зашмальцованых вапнаю рызманох, у грубых башмакох. Чулася італьлянская гутарка.

Гэта былі італьлянцы, выгнаныя барбарамі з краіны, зусім не падобнай на гэту, калі яна яшчэ ня была апагарджана чорнарубашачнікамі. Яны працавалі на Лазурным беразе ў буйнага падрадчыка, які ведаў, што за імі сочыць італьлянская паліцыя, і прымушаў працаваць іх, як скаціну. Яны ўпяршыню былі ў гэтай мясцовасьці і ня ведалі адзін другога.

Сярод гэтых беглых італьлянскіх нявольнікаў было трое чужых. Яны адрозьніваліся сваімі шэрымі сьвіткамі і шалікамі—у аднаго быў сіні, у другога—зялёны, у трэцяга—чорны шалік. Яны ні слова не разумелі паітальлянску.

Чалавек з зялёным шалікам быў дзябёлы мужчына з кучаравай, як каракуль, барадой. Ён вечна соп, а ад гэтага ў яго атрымліваліся нейкія сьвісьцячыя гукі.

Быў час перапынку.

Ён пачаў з таго, што паказаў рукою ўдаль—маленькая хатка ў сьнезе.



І пачаў тлумачыць пра сьнег.

Ён глядзеў на нас уважліва, пераводзячы погляд з аднаго на другога, як-бы жадаючы, каб яго словы глыбока запалі нам у душу. Мясцовасьць, якую ён апісваў, уся была ў сьнягу, белая, як папера. Сухія дрэвы падобны на старыя венікі, засыпаныя сьнегам, сярод іх—некалькі елак, зялёных стружак. Вялікая куча каменьня, засыпаная сьнегам. Сельска-гаспадарчыя прылады паўсюды зроблены з дрэва, нават плуг драўляны. Калакольня. Сьнег сыпле кучамі.

Ад яго апісаньня нас пранімае холадам. Мы падумалі, што ён раскажа аб чымнебудзь страшным, аб забойсьцьве. Выявілася, што аб дзіцячай гульні.

— Адкуль ты?—запытаўся ў яго адзін з нашых.

— З Баўгарыі.

— У тваёй краіне выпадае сьнег? Ды гэта-ж на поўдні?

Ён растлумачыў, што нават у краінах з цёплым кліматам бывае холадна (да таго-ж у Баўгарыі ня так ужо цёпла), і што краіны, як людзі, яны ўсе амаль падобны паміж сабою. Доказ—гэта вёска, цэркаў, гэта гульня дзяцей.

— Бацька,—зноў пачаў ён, — стаяў тут-жа на сваіх вялізарных нажышчах і спачатку глядзеў, як гуляюць дзеці. Потым адышоўся ад іх.

На дзецях былі маленькія шапачкі з барановых аўчынак, на адных—шэрыя, на другіх чорныя, на адных—паношаныя і пацёртыя, на другіх—новыя. Яны называлі сябе па імёнах: Мэнчо, Нэчо, Дэнкчо.

— У што яны гулялі?

— У рэчы, аб якіх чулі ад дарослых.

— Дзеці,—заўважыў адзін з іх,—разумней за дарослых, хоць-бы таму, што ведаюць менш дурносьцяй. Але ў іх вялікі недахоп—яны вельмі стараюцца пераймаць усё ад дарослых.

Той даў дагаварыць свайму таварышу, а потым пачаў зноў:

— Некалькі гадоў таму назад яны толькі тое і рабілі, што гулялі ў вайну. Арміі, генэралы, гарматныя стрэлы, забойствы сялян вайсковымі, якія толькі крычаць і носяць залатыя пагоны.

Гэты баўгарын гаварыў досыць складна.

— Ты настаўнік?

— Так. Але скончылася вайна, мінула й мода гуляць у яе. І дзеці пачалі гуляць у паліцыю, якая замяніла вайну.

Яны чулі „аб гэройствах“ паліцэйскіх і судоў, якія гайсаюць па гарадох і вёсках, улятаюць у хаты, як цудоўныя істоты, і вельмі зацікавіліся ўсімі гэтымі рэчамі.

Тысячы людзей былі перабіты гэроямі-паліцэйскімі ў зьвязку з узрывам сабору.

Але, на жаль, усё гэта ня было сфатаграфавана, у той час, калі пакараньне сьмерцю Фрыдмана*) было дасканала зьнята кіно-опэратарамі. Вядома, што пры пакараньні прысутнічала пяцьдзесят тысяч гледачаў і што пакараньне было буржуазіяй зроблена знарок такім гучным—на страх прыгнечаным. Ведалі таксама, што ён не пакідаў крычаць перад судом аб сваёй нявіноўнасьці. Самыя малюсенькія яго рухі да апошняга часу былі зьнятымі фото-апаратамі журналістых аж да таго часу, калі ён быў задушаны багамі справядлівасьці перад вачыма чыноўнікаў і пяцідзесяці тысяч гледачоў.

Усю гэту сцэну пакараньня і прарабілі дзеці. Тут былі пракурор, генэрал, поп і кат і Марка Фрыдман. Не хапала гледачоў, але-ж галоўнае ўсё-ж такі было.

Той, хто іграў ролю Фрыдмана, меў нездаволены выгляд. Ён быў сумным, хмурыў бровы. Выходзіла вельмі добра.

Пракурор сьціскаў кулакі і крывіў маленькія губы. На яго ілбе вызначылася маршчына. Ён адзеў акуляры, каб быць больш падобным.

Раптам маленькі Фрыдман засердаваў і крыкнуў:—я невінаваты!

— Замаўчы, бандыт!—адказаў поп, тупнуўшы нагою вобземлю. Ён не адважваўся хадзіць, каб не заблытацца ў сваім аблачэньні.

Дзеці выбралі гэта месца, таму што тут былі слупы для гімнастыкі, вельмі зручныя для шыбеніц.

— Павесіць яго!..

*) баўгарскага рэволюцыянэра.

Яны зрабілі так, як гэта намалявана на адчыненых паштоўках, у газэтах і часопісях, у кіно-тэатрах. Прывязалі пятлю, надзелі яе на шыю ахвяры, нацягнулі на яго мяшок і загадалі яму узьлезьці на стол.

Пракурор прачытаў прысуд, павольна выгаварваючы кожнае слова, з лёгкімі дрыжыкамі ад усьведамленьня паважнасьці ўсяго, што адбывалася (гэта быў сапраўдны прысуд, дакладная копія).

Потым крыкнуў:

— Забраць стол!

Момант быў такі напружаны, што каралеўскі пракурор згубіў папяросу, якую ён курыў, як дарослы.

Маленькі Марка Фрыдман затрапятаў нагамі ў паветры.

Ён быў павешаны.

Яго зьнялі. Але ад захапленьня яны прапусьцілі некалькі лішніх сэкунд, і з пятлі зьнялі толькі няжывы трупік. Калі сьцягнулі мяшок, з яго выглянула спакойнае і белае, як сьнег, аблічча. Яны спужаліся, кінулі яго на зямлю і ўцяклі.

Бацька працаваў воддаля. Ніхто нічога ня ведаў да вечара.

Загаварыў другі баўгарын—той, што з сінім шалікам.

— Я ведаю гэту гісторыю хлопчыка, які сапраўды быў павешаны сваімі. Але справа была ня так. Гэта адбылося ў чэрвені—ліпені, сьнегу тады ня было. Гэта здарылася недалёка ад Бургасу.

— Ды ня так,—перапыніў яго трэці баўгарын.—Гэта адбылося ля Плеўны.

— Нейкая блытаніна,—заўважыў адзін з іх.

Яны заспрачаліся, але потым выявілася, што і першы казаў праўду, і другі не салгаў і што трэці таксама сказаў аб сапраўдным здарэньні. Адбылося некалькі падобных выпадкаў з аднолькавым канцом.






*Верш* Я. **Панамарова.**

*Малюнкі* **Тараса.**

I.

Было то аднойчы,
Было раз пад вечар—
Пасьвіў хлопчык Яшка
На лузе авечак.
Было гэтак ціха,
Было так расяна...
З ярыны цягнула
Водырам аўсяным.
Эх, жыцьцё, жыцьцё ты,
Лета ў паднявольлі!
Дзень у дзень са статкам
На шырокім полі...
Ў буру, непагоду,
Вечна тут на ніве.
Эх, нашто радзіўся
Гэткім нешчасьлівым?!.

II.

Ўсё аб чымсьці думаў
Ён, аб нечым марыў...
Углядаўся пільна
Ў залатыя хмары.
Хмарачкі-барашкі
Так плывуць лагодна
Праз лясы і горы
Над зямліцай роднай.
І куды плывеце,
Хмары-валаконцы?
Ці былі вы, хмаркі,
На чужой старонцы?!

. . . . . . . . . .

Там, далёка дзесьці
Згінуў родны татка!
У палон забраны
З сваёй роднай хаткі.
Палякі-бандыты
Раз схапілі рана
І кудысь цягнулі
На расправу к пану...
Потым бацьку з маткай
Пастралялі ў клеці,
А малога Яшку
Ніхто ня прыкмеціў.
Бацькоў загубілі..
Брат—у партызанах...
Эх, жыцьцё, жыцьцё ты!
Ці загоіш раны?!

. . . . . . . . . . .

Яшчэ так нядаўна,—
Тры гады, ня болей!—
Бег, хаваўся Яшка
Ад паноў у поле.
Гэтак было крыўдна!
А на вочках сьлёзы...
На шляхох хісталісь
Сумныя бярозы.
— Вырасту—няпраўда!—
Думаў малы Яша.
— Не насіць паночкі,
Вам галовак вашых!—
Так ён думаў, думаў
І хадзіў, бывала,
Покі не садзілась
Сонейка за галам.

III.

А калі прасторы
Сонцам зіхацелі
І гудзеў у высі
Радасна пропэлер,—
Ня было тых межаў
Яго хваляваньням...
— Эх, каб так падняцца
Ў сівыя туманы!

* * *

А было, урэшце,
У сіняе раньне

Самалёт спусьціўся,
Сеў на тым кургане!
Аб усім забыўся,
Кінуў Яшка пугу...
І кулём на поле,
Нібы к сябру-другу!
Эх, вы, думы, думкі,
Лёгкія на ўзмахі!
— Што, калі-б прысесьці
Ды на крыльлі птахі?—
І ад гэтай думкі
Яшка ня рухнецца.
— Ну, а калі знойдуць?
Тады куды-ж дзецца?!
Э, ды што там будзе?!
Сяду ціха гэтак,
Узьляцім пад хмары,
Паляцім па сьвету!..
А ўнутры заняты
Штось чыніў мэханік...

. . . . . . . . . . .

Ужо туман расплыўся
На крутым кургане,
Ўжо даўно авечкі
Травіцы пад'елі,
Ўжо крутнуўся ўрэшце
На носе пропэлер...
Толькі Яшка поўны
Дум-перажываньняў...
Самалёт узьвіўся,
Кінуў цень паляне...

IV.

Доўга так ляцелі
Праз палі, вазёры,
Заблішчаў урэшце
Нейкі шумны горад.
Горад незнаёмы,
Горад нейкі дзіўны...
— Але, што рабіць тут?
— Дзе дастаць хоць грыўню?
Пэўна-ж, небараку,
Пашкадуе хто так?
Зарабіць-жа хутка
Ня прыдзецца „злоты"?!

. . . . . . . . . . . . .

Ад самалёту льлецца водгук
Ў бязьмежны сонечны прастор,
Гудзіць, сьпяваючы, пропэлер,
Уторыць ў лад яму матор.

* * *

Дзе ты, краса, мой родны кут?..
Дзе ты, жаданы адпачынак?
Там, над ракою, у сітнягу,
Знаходзіў часта я прыпынак.
Шумела ціха так рака,
Там звонка птушкі расьпявалі.
І я там, з пугаю ў руках,
Глядзеў ў лазуравыя далі...

. . . . . . . . . . . . . .

І Яшка думкамі заняты,
Галодны марыць ён аб чымсь...
Мо' аб вясковых ціхіх хатах?
А самалёт гурчыць, гурчыць...
Што крок уперад—бліжай горад;
Вось чорны дым фабрычных труб.
Глядзіш уніз—людзкое мора,
Ад мачтаў бляск антэнных струн.
Ў вячэрнім змроку тухне сонца.
Апошні раз зірнуў прамень,
І сіні вечар валаконцы
Кладзе на сьветлы шумны дзень.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А ўрэшце—вось аэрадром,
Даўно спынілася машына.
Баліць ад голаду нутро,
І ные, ные, нешта сьпіна.
І Яшка ціха так крадзецца,



*А ўрэшце—вось аэродром...*

І ўжо надумаўся ўцякаць,
Як разам — стой! Не зварухнецца...
Схапіла нечая рука.
І так раптоўна гэту ціш
Прарэзаў голас грубаваты:
— Гэй, ты, хлапец! куды ляціш?!
Задам табе я:
„авіятар“!!!
А Яшка ўвесь дрыжыць, дрыжыць...
Зірнуў і—што? вачам ня верыць...
Знаёмы... Блізкі твар... бяз меры!
— Браток, ці ты?!
Застаўся жыў?!

. . . . . . . . . . . . . . . .

V.

А далей?—Далей цяклі дзянькі,
Падхапілі хлопчыка малога...
Не пасе ўжо статку ля ракі—
У яго ўжо іншай працы многа!
Толькі дзень заблiскае ў трысьці,
З сінявы туман ідзе за горы,—
Як вясёлы Яшка
Ўжо ляціць
З хлапчукамі ў лягэры за горад.
А зімой з кніжкаю ізноў;
Пільна так заняўся ён вучэньнем...
Усё былое зьнікла ўжо даўно,
Кроў у жылах радасна струменіць.



# ПІОНЭР, ВУЧЫСЯ СТРАЛЯЦЬ.

З усіх відаў спорту найбольш патрэбным і ў той-жа час найбольш цікавым і даступным зьяўляецца стралковы спорт. Хто ў наш час ня цікавіцца ім? І дарослыя і дзеці—усе любяць пастраляць.

Стралковы спорт загартоўвае чалавека, разьвівае яго фізычна, павялічвае зрокавасьць і г. д. Зразумела, лепш за ўсё страляць са стрэльбы, аднак яна каштуе дорага і набыць ее не пад сілу піонэру.

Але не бяда, калі няма стрэльбы, з якой можна было-б вучыцца страляць; і бєз яе можна займацца такім цікавым спортам, як кіданьне мяча, стральба з рагаткі і з лука і інш. А калі ты вырасьцеш і пачнеш навучацца сапраўднай стральбе, ты з большым посьпехам здолееш уцяміць патрэбныя табе веды па стралковай справе, бо разаўеш вока і напрактыкуеш руку.

Ніжэй мы апішам некалькі вельмі карысных гульняў. Пачнем з кіданьня мяча. Мяч можна зрабіць самому. Для гэтага возьмем корак, абматаем яго змочаным лямцам (войлакам) так, каб ён быў круглым; затым ад старой галёшы нарэжам гумавых палосак і поверх лямца абматаем наш мяч. Калі мы гэта зробім, возьмем невялікі кавалак тонкай скуры ці шчыльнай матэрыі і выражам з яе два кавалкі, паказанай на рыс. 1 формы і разьмераў, сшыем іх моцнымі ніткамі і мяч гатоў.

Цяпер нарысуй на сьцяне круг дыямэтрам у $^1/_2$ мэтра, адыйдзі ад яго крокаў на 10—15 і кідай у яго мяч. Калі пачнеш кідаць, дык убачыш, што гэта ня так лёгка, як здавалася-б на першы погляд. Каб папасьці ў цэль, трэба добра напрактыкавацца; навучыўшыся пападаць мячом у цэль, зьменшы яе ці адыйдзі далей крокаў на 20—25.

Яшчэ цікавей ты можаш скарыстаць мяч, калі зробіш сабе такую *забаўную мішэнь* (цэль). На мэтравай фанэрнай дошцы намалюй Пілсудзкага; выраж нос і падвесь на сваім-жа месцы тонкім дротам. Зрабі вусы на цьвіках і падвяжы іх.

Калі ты мячом будеш пападаць у кружок носа, дык вусы будуць рухацца.

Ня толькі забаўным, але і вельмі карысным заняткам зьяўляецца *кіданьне колцаў*. Зрабіць колцы ня цяжка, але вось кіданьне іх у цэль вымагае пэўнай практыкі.

Колцы лепш за ўсё зрабіць з дроту, але можна таксама і з вярбяных дубцоў, прычым месцы злучэньня канцоў трэба перавязаць шнурком.

Затым уваткні ў зямлю некалькі жардзінак, адыйдзі ад іх крокаў на 5—6 і накідвай на іх колцы.

У гэту гульню можа гуляць некалькі хлапцоў. Кожны з іх пачарзе накідвае на жардзінкі колцы, прычым той, хто накіне колца, атрымлівае адно вочка. Выйграе той, хто накіне найбольшую колькасьць колцаў.



Рыс. 1.

Для кіданьня *каменьняў* на вялікія адлегласьці і нават у цэль, трэба зрабіць прашчу. Вазьмі для гэтага кавалак шчыльнай матэрыі разьмерамі 15×7 сантымэтраў, прывяжы да яе з абодвух канцоў шнуркі, кожны даўжынёй ня больш мэтра. Канец аднаго з шнуркоў завяжы колцам, у якое можна было-б прасунуць руку, а на другім канцы прывяжы невялікі цяжар.

Пры кіданьні трэба адзець колца шнурка на руку, канец-жа другога шнурка сашчаміць паміж паказальным і сярэднім пальцамі. Затым трэба ўкласьці ў торбачку прашчы невялікі камень, а для пачатку можна цыбуліну ці бульбачку, і раскруціць прашчу над галавой некалькі разоў; злавіўшы момант, калі прашча будзе падыходзіць да правага боку, выпусьці канец шнурка, да якога прывязан цяжар. Апісаўшы прыгожую дугу, камень праляціць досыць далёка.

Для стральбы ў цэль найлепшым „аружжам" зьяўляецца *рагатка*. Яна надзвычайна пашырана сярод дзяцей і табе, напэўна, вядома.

Таксама, як і рагатку, можна зрабіць і іншыя прыстасаваньні для стральбы. Мы тут спынімся толькі на двух.

1. Ручку трэба зрабіць з дрэва. У адзін з канцоў ручкі трэба ўкруціць колца. Пад колцам прывязваюцца дзьве гумкі, да канцоў якіх прымайстраваць кавалак скуры, гэтак-жа сама, як і ў рагатцы.

Каб зрабіць стрэлку, трэба з сухога і трывалага дрэва старанна выстругаць роўную круглую палачку, таўшчынёю каля $^1/_2$ сантымэтра; даўжыня-ж яе павінна быць такая, каб пры нацягнутай гуме стрэлка выступала на адну трэць сваё даўжыні сьпераду колца.

У пярэдні канец стрэлкі ўстаўляецца тонкі цьвік, ці на яго адзяваецца гостраканечная куля з вытапленым волавам.

Стральбу з такога прыстасаваньня можна весьці вельмі спраўна (рыс. 2).

2. яшчэ лепш замест колца зрабіць трубку, па якой-бы стрэлка рухалася; усё астатняе зрабіць гэтак сама.

Такое прыстасаваньне значна палепшыць стральбу і зробіць яе яшчэ больш спраўнай (рыс. 3).

У заключэньні *спынімся на луку.*

Матар'ялам для лука можа служыць арэшнік, вярба ці бяроза, але абавязкова сухія і па магчымасьці бяз суччаў. Пры выбары матар'ялу для лука трэба зьвяртаць увагу на тое, каб таўшчыня прута дубца з абодвых яго канцоў, а таксама і паміж імі, была па магчымасьці аднолькавай. Даўжыня прута, для таго каб лук быў досыць прудкі, павінна быць ня менш як 1,5 мэтра, а таўшчыня 2—2,5 сантымэтры.

Выбраўшы прут, трэба яго выстругаць так, каб ён быў на адлегласьці ад сярэдзіны да абодвых канцоў у 40—50 см. аднолькавым па таўшчыні. Канцы-ж зразаюцца ў выглядзе стажка (конуса) да 2—1,75 см. Унутраны бок павінен быць роўна зрэзаным (рыс. 4). 40 сантымэтраў у сярэдзіне прута абматваецца тонкім шнурком, каб зручней было трымаць лук. Па канцох робяцца няглыбокія зарубкі для цяцівы.

Цяціву можна зрабіць з шнурка, але тады яе трэба наваскаваць, а яшчэ лепш з жыльнай струны. Разьмер цявівы павінен быць такі, каб адлегласьць ад сярэдзіны лука да сярэдзіны нацягнутай цяцівы была роўна прыблізна $^1/_{10}$ даўжыні прута лука. Адзін канец цяцівы



Рыс. 2.

трэба добра замацаваць на луку, абматаўшы яго моцнымі ніткамі; другі-ж канец пакідаецца свабодным і завязваецца перад самай стральбой, гэта патрэбна для таго, каб дрэва ня страціла свае прудкасьці.

Зрабіўшы сабе такім чынам лук, трэба заняцца вырабам стрэл.

Даўжыня стралы павінна быць такая, каб пры нацягнутай цяціве страла выступала наперад лука, прыблізна на $^1/_4$ свае даўжыні. Па таўшчыні страла з адкаго канца павінна быць танчэй за аловак, з другога-ж крыху таўсьцей за яго. Калі-ж на канец адзяваецца куля, дык гэта не абавязкова.

Для стрэл падбіраюць дубцы—можна розных парод дрэваў, выроўніваюць іх, ачышчаюць ад сучкоў, зьдзіраюць скурку і праціраюць шклянай паперай. Страла павінна быць *абавязкова роўнай*.

Добрую стралу можна зрабіць наступным чынам. Узяць сухую хваёвую палачку, старанна выстругаць ее вострым



Рыс. 3.

нажом накругла, затым, пакінуўшы на канцох брускі, апусьціць яе ў кіпучую аліфу ці проста вадкае масла. Калі страла досыць набракне ад масла, яе трэба выняць і, прывязаўшы да аднаго канца шнурок, які будзе затрымлівацца




Рыс. 4.

неабрэзаным бруском, падвесіць да другога, прывязаўшы на шнурку-ж які-небудзь груз, напрыклад, камень, і пакінуць на некалькі дзён (дні 2—3) сушыцца (лепш за ўсё на сонцы). Вымочваньне стралы ў масьле трэба паўтарыць 2—3 разы. Пасьля гэтага трэба абрэзаць брускі і з патоўшчанага канца завастрыць стралу, уставіўшы ў ее тонкі цьвік ці вытапленую кулю, з тонкага-ж зрабіць невялікую зарубку, каб зручней было прыстаўляць стралу да цяцівы. Працёршы добра стралу шкляной паперай, а затым анучай, у тонкім канцы зрабіць дзьве няглыбокія выемкі ўсьцяж стралы, разрэзаць гусінае пяро на дзьве паловы і ўставіць іх у выёмку, замацаваўшы клеем і ніткай.

Зробленая такім чынам страла, досыць моцная, добра гнецца і ўстойліва ў палёце, а калі яе спусьціць з добрага лука—можа праляцець вялікую адлегласьць—да 80, а то і больш мэтраў.





# Тут—колектыў.

*(Бабруйскі акруговы лягер).*

Вялікі 2-х павярховы будынак, упрыгожаны маленькай папяровай шыльдай, на якой дзіцячай рукой старэнна выведзена:

**Піонэр-лягер**

**„Чырвоны Гальштук“.**

У гэтым лягеры на працягу двух месяцаў крынічыла жыцьцё піонэраў, якія зьехаліся сюды з розных раёнаў Бабруйшчыны.

4 зьмены, якія былі ў лягэры па два тыдні, зрабілі шмат карыснага для навакольнага насельніцтва, змаглі як належыць скарыстаць лета, каб паправіць сваё здароўе. І сапраўды, дзякуючы добраму распарадку, праца праводзілася выключна на паветры і піонэры значна паправілі сваё здароўе. На працягу 2-х тыдняў піонэры прыбавіліся ў вазе ў сярэднім да 4—7 фунтаў, а адна дзяўчынка з Бабруйску прыбавілася на 20 фунтаў. Гэта, бясспрэчна, вялікае дасягненьне лягеру.

У пакоях будынку заўсёды старэнна вымытая самімі піонэрамі падлога, чыстата сьцен і вакон. Тут гігіена ў вялікай пашане.

Калі абыходзіш лягер, разглядаеш цікавую працу задорных дзяцей, упэўніваешся, што тут цячэ сапраўднае колектыўнае жыцьцё падрастаючых будаўнікоў.

Усю працу піонэры выконваюць самі—гэта гонар лягеру. Яны па чарзе скрабуць бульбу, дзіўна гатуюць сабе абеды, самі прыбіраюць свае пакойчыкі, мятуць, засьцілаюць свае ложкі, мыюць для сябе бялізну і г. д.

Насельніцтва палюбіла піонэраў за тыя спэктаклі, якія наладжваў лягер, за іх шчырую і дружную працу.

Кожны дзень лягер наведвалі людзі рознага ўзросту. А моладзь, едучы на начлег, з радасьцю падыходзіць да зыркіх кастроў, ля якіх можна пачуць дэклямацыі, гутаркі, вусную газэту, сьпевы і скокі пад гармонік.

**Міх. Вяр-скі.**

# Дзе што робіцца.

**Аршанскія піонэры** ў сярэдзіне мінулага месяца (12 жніўня) наладзілі вайсковую гульню **„Бойка за Шанхай“.**

Усе атрады былі падзелены на дзьве арміі: „Гаміданаўцы“ і „Чырвоныя пікі“.

Гульня абхапіла ўсіх дзяцей гораду і прашла з посьпехам. **(Н. Р.-В. Л.).**

**Хвашнянскі** атрад імя Леніна (Віцебшчына) сабраў на карысьць кітайскіх піонэраў 4 руб. 17 кап. Грошы былі сабраны сярод камсамольцаў і піонэраў. **(Я. Іваноў).**

**Піонэры гораду Менску** наладзілі з 18 на 19 жніўня масавы паход, організаваны Акруговым Бюро Ю. П. і Асоавіяхімам. У часе паходу за горадам 19 жніўня была праведзена вайсковая гульня — бойка „белых“ з „чырвонымі“. Гульня праводзілася пад кіраўніцтвам каманднага складу.

Усе піонэры засталіся здаволенымі паходам.

**(Н. Гурын і Маршак).**

**Дрэнна** правялі свой выхад у лягер піонэры Барысава 6 ліпеня. Ніякай дысцыпліны і організаванасьці ў лягеры ня было. Прычына тая, што ня было добрага кіраўніка лягеру. **(В. Мебель).**

**Другі зьлёт** піонэраў Круглянскага раёну адбыўся ў канцы чэрвеня. На зьлёце праводзілася гутарка аб працы вясковых піонэрскіх атрадаў, аб культурнай рэволюцыі ў вёсцы і інш. Абгаварвалі таксама пытаньне аб тым, як зьнішчыць розную хлусьню папоў аб вайне. Зьлёт правёў некалькі масавых гульняў. **(Я. Кроль).**

**Зусім хварэе** праца ў Смалявіцкім атрадзе імя К. Лібкнэхта. Улетку збораў амаль ня бывае, бо ніхто ня йдзе на іх. Піонэры нічым не зацікаўлены ў атрадзе. Мясцовая ячэйка нічога ня робіць, каб палепшыць працу атраду.

**(Кар. Янка).**

**Павадыр** Гарбачэвіцкага атраду Гаўрыловіч ва ўсю раскурвае сам і прывучае да гэтага шмат якіх піонэраў. У атрад заўсёды прымае толькі „прыгожых“.

Ячэйка на гэта не зьвяртае ўвагі.

**(І. Г.).**

**Жодзінскі** піонэрскі атрад у сярэдзіне ліпеня м-ца правёў экскурсію ў г. Менск. У Менску піонэры пазнаёміліся з важнейшымі сталічнымі ўстановамі. Экскурсію дапамаглі наладзіць партыйная і комсамольская ячэйкі.

**Піонэры м-ка Ляды** некалькі разоў на зборах абгаварвалі пытаньне аб пашырэньні падпіскі на часопіс „Беларускі Піонэр“, але... толькі абгаварвалі.

„Беларускі Піонэр“ можна знайсьці толькі ў чытальні—1 экз. на ўсё мястэчка! Трэба павадырам сур'ёзна заняцца гэтай справай.

**Ф. Файва.**

**Атрад пры заводзе** „Варшавянка“ працуе дрэнна. Павадыроў ужо зьмянілі ня мала, а праца—на месцы. Ячэйцы трэба больш зацікавіцца атрадам.

**Г. А.**



*Сёньня мы чытаем цікавую кніжку.*



# Янук у лесе.

Рассыпала сонца за вёскай
свае залатыя каралі,
а вецер прынік да зямлі.
За плотам пабеглі палоскі
сустракаць сінявейныя далі.
Яснацьветам палі расьцьвілі.
Схапіўшы кавалачак хлеба,
Янук выганяе карову
на сьпеў пастуховай трубы.
Вось выган з чарняваю глебай,
а там—агарожа-ахова
і поле, дзе ўчора ён быў.
Абапал бялявай дарогі
ўсьміхаецца коласам жыта;
васількі забягаюць к мяжы.
І нівы і травы-мурогі
зьзяньнем-ласкаю сонца абліты;
пылам-золатам жыта імжыць.
Як добра цяпер на прывольлі,
дзе ўздымаецца жыта сьцяною!
Любуецца жытам Янук.
Дагнаўшы старога Міколу,
што зьзяе на сонцы трубою,
у пушчу імкнецца хлапчук.
У пушчу, што моцна так вабіць
разложыстым дахам зялёным
і сьпевамі пташак лясных;
дзе стромкія ясені, грабы,
бярозы, яліны і клёны;
дзе пах такі смачны сасны.
А вось і зялёная пушча...
А колькі тут рознай прынады,
а колькі чырвоных суніц!..
Улез Янка ў самую гушчу—
не баіцца ён пушчавай здрады:
яму лес родным садам шуміць.
Тут сьпевы аркестры птушынай
і чыстае водар-паветра,
што пахне грыбамі й смалой;
курчавыя хвояк вяршыны,
што вылезьлі з цэпнае нетры;
вясёлых кузурачак рой.
Зялёныя вежы-званіцы
тут сьмела ўзьняліся угору,
у сіняе неба глядзяць;
вясёлыя песьні крыніцы,
прыгожыя дрэваў уборы,
імшыстая мяккая гладзь.
Дол выслан сунічнікам, лістам
і яркімі плямамі кветак,
што блішчаць крышталёвай расой...
Тут вабіць хлапчыну ўсё-чыста,
ўсё Янку страчае прыветам,
ўсё цешыць дзівоснай красой.

**Я. Івашын.**




# Мікітава жаданьне

*Апавяданьне* **А. Цітавай.**

*Малюнкі* **Філіповіча.**

Вось ужо другі месяц ідуць дажджы. Гэткае сумнае, хмурае надвор'е. А сёньня і зусім на восень падобна. Нельга сказаць, што чэрвень на дварэ. Усё неба пакрыта сівымі хмарамі, а дождж ліе, ліе, ліе... Гэтак сумна. І ўсім і ўсяму сумна.

Схіліліся і нудна пазіраюць расьлінкі ў лузе, збажынкі ў полі, і, нібы сьлёзкі, капаюць з іх бесьперастанку дажджавыя капкі.

Сумуюць і нудзяцца дзеці ў хатах. Гэтак чакалі яны лета, ажно на табе! І гуляць нельга выйсьці.

Вось і маленькі Мікітка сядзіць у хаце каля вакна і журлівымі вачыма пазірае на вуліцу. Цэлую зіму сядзеў ён у хаце, бо ўзімку холадна: мароз, сьнег. А ў Мікіты ня было чаго надзець цёплага ні на ногі, ні на плечы. Вось у Саўкі ёсьць стары бацькаў кажух. Саўка ўжо вялікі. Яму дзесяць год. Ён узімку ходзіць у школу. А Мікіту толькі шэсьць гадоў. „Табе цёплую адзежыну шыць яшчэ няма для чаго. Ты яшчэ малы, на работу ўзімку ня пойдзеш. Паразімуеш і гэтак“—кажа Мікіту маці.

Ну, Мікіта і паразімаваў. Выбяжыць ён, бывала, узімку на вуліцу босы ў старой Саўкавай сьвітцы, пастаіць хвілінку, зьмерзьне і хуценька ў хату. І як-жа чакаў Мікіта лета! Вось і лета, а Мікіта зусім яшчэ мала нагуляўся. Нават і сонейка не апаліла яшчэ яго бледныя шчочкі.

Сёлета Мікітаў бацька наняўся быдла пасьвіць. „Ну, Мікіта“,—казаў бацька: „і цябе вазьму калі-небудзь з сабой быдла пасьвіць. Няхай толькі надвор'е добрае будзе“. У кожную раніцу, ледзь толькі прачнецца, Мікіта пазірае ў вакно і глядзіць, ці добрае надвор'е. Гэтак яму хочацца гнаць з бацькам быдла пасьвіць. Ён панясе новую бацькаву дудку. А ў лесе бацька будзе йграць на ёй гэтак прыгожа, аж адгалоскі

далёка разыйдуцца па лесе. Прыгожая ў бацькі дудка!

Вось і сёньня ўстаў Мікіта раненька, зірнуў у вакно—дождж. Аж сьлёзкі навярнуліся на яго галубенькія вочкі.

Бацька з Саўкам сьнедаюць. Яны зараз пагоняць быдла. А Мікіта й есьці ня хоча.

— Саўка,—кажа ён,—ты мне ўзімку расказваў, што ёсьць такія самалёты, на якіх лятаюць аж да вобдакаў. Я і сам аднаго разу бачыў, як ляцеў гэткі самалёт. Я тады падумаў, што гэта птушка, а ты казаў, што гэта самалёт.

— Ну, ёсьць гэткія самалёты,— адказвае Саўка. — Навошта яны табе?

— Ну, а хмары гэта адкуль, і воблакі, з чаго яны?—пытаецца зноў Мікіта.

— Бабка Хадора казала, што воблакі, як студзень, і што быццам цётка Маўра знайшла аднаго разу кавалак воблака, які зьляцеў з неба, дык ён якраз падобен да студзеня, які гатуюць з парасяці, ці з ног і галавы цяляці. Ці верна гэта? Га?

— Адчапіся ты ад мяне,— адказвае Саўка:—я табе ўжо аднаго разу казаў і пра хмары, і пра дождж, сьнег, воблакі. Нават і байку чытаў узімку праз асілак—пару. А цяпер, бачыш, часу няма. Лажыся ды сьпі. Усё роўна сёньня не пагоніш з намі быдла, бо дождж ідзе.

— Верна, Мікіта, лажыся,—дадае бацька.

А Мікіта ўжо зноў глядзіць на неба, дзе плывуць шэрыя хмары. Гэткі хмуры дзень ад хмар! Заслалі яны сонейка, няма вясёласьці.

„Во каб паляцець туды высока на самалёце ды паразганяць хмары“, думае Мікіта: „тады-б і зірнула сонейка, стала-б весела, ён-бы пагнаў з бацькам быдла пасьвіць. Вось каб паляцець туды ўгару і паглядзець і хмары і воблакі“. Думае гэтак Мікіта, думае, а русая галоўка яго клоніцца ўсё ніжэй і ніжэй і заплюшчыліся яго вочкі. „Здаўся“,—кажа маці, і нясе яго на ложак.

А Мікіта бачыць, што да вакна падышоў якісь-та вялікі асілак. І вочы ў яго, як з вады, а валасы і барада, як пара, і адзежа яго разыходзіцца ва ўсе бакі і ня бачна канца яе. Якраз гэткі асілак, як у байцы, што чытаў узімку Саўка. Нахіліў галаву асілак і кажа: „Хадзі, Мікіта, я пакажу табе з чаго хмары!“



*...да вакна падышоў асілак...*

І ён бярэ Мікіту, выпростваецца і галавой дастае да хмар. Мікіту здаецца, што хмары гэта яго валасы. „Маё імя“,—кажа асілак,—„пара, можаш зваць мяне вада, дождж, сьнег, туман, хмара, гэта ўсё адно, бо ад цяплыні вада робіцца нявідочнай парай, а ад холаду пара робіцца капачкамі вады. Пара вельмі лёгкая, яна падымаецца ўгару. Угары холадна, і з пары робяцца каплі вады. Гэтыя каплі плывуць у паветры. Людзі

кажуць: „Хмара ідзе". Вось глядзі". І бачыць Мікіта, што хмара ўся з капачак вады і раптам капачкі ўсе пачалі ляцець ўніз.

„Вось і дождж пайшоў", кажа асілак—„а калі вось гэты дождж сустрэне па дарозе вельмі халоднае паветра, дык каплі замерзнуць і людзі будуць казаць: „Град ідзе". Узімку бывае вельмі холадна, пара замярзае і робіцца ня капачкамі, а беленькімі сьняжыначкамі. А вось глядзі ляціць волат-сівер". І Мікіта ўбачыў, што ляціць празрысты, як шкло, волат, які размахвае вялікім бяз конца крыльлем. „Зараз ён разгоніць хмары", кажа асілак.—„Я цябе занясу дамоў, а ты ведай, што і туман таксама з пары, якая ад холаду зрабілася маленькімі капачкамі вады. І раса, што блішчыць, як сьлёзкі, на расьлінах раніцай і ўвечары, таксама пара, якая, дакрануўшыся да халодных рэчаў, зрабілася капачкамі вады. Нявідочная пара заўсёды ёсьць у паветры"—дадаў асілак і хутка панёс Мікіту на зямлю.

Аж дух захапіла ў Мікіты і ён мацней учапіўся за асілка.

„Пачнеш вось у школу хадзіць, дык аб усім гэтым прачытаеш у кніжках", кажа асілак. „Многа чаго будзеш ведаць тады, а пакуль і гэтага даволі".

І асілак усадзіў Мікіту ў вакно яго хаты. „Бачыш, якое сонейка вясёлае зірнула, і хмар ужо няма, бачыш, Мікіта?"—дадае асілак.

А Мікіту здаецца, што гаворка асілка падобна да гаворкі яго маці.

„Ды прачніся ўжо!" чуе Мікіта. „Бачыш, сонейка, птушкі пяюць, весела як, уставай-жа!". Адчыніў Мікіта вочкі, а над ім стаіць маці.

— Ну, уставай, уставай, во заспаўся,—кажа яна.—Зірні, якое вясёлае стала надвор'е. Ускочыў Мікіта, зірнуў у вакно. Радасна заблішчалі яго вочкі.

— Мамка, а я аж да самае хмары сёньня з асілкам лётаў, і ведаю цяпер, з чаго хмары, дождж, сьнег, град, туман, раса. А хмары разагнаў сівер. Вось і сонейка. Сёньня паганю ў поўдні з бацькам быдла.

## Нашы наглядраньні.

*(Гл. 2 ст. вокладкі).*

Наш акварыум уяўляе сабой чатырохкутную шкляную пасудзіну, шырынёй і даўжынёй у 25 см. і вышынёй у 30 сант. На дне гэтай пасудзіны тонкім пластом насыпаны чысты пясок і сант. на 20 увышкі наліта вады, набранай з сажалкі.

Мы, думаючы, што рыбы вельмі галодныя, панакідалі ім у акварыум шмат вялікіх кавалкаў хлеба і дзякуючы гэтаму на заўтра... (што-ж, трэба прызнавацца) рыбы чуць не паздыхалі. Вы можа падумаеце, што яны аб'еліся? Не. Вышла зусім іншае. Ад вялікай колькасьці хлеба вада ў акварыуме сапсавалася—закісла і гэта пашкодзіла рыбам.

Доўга не разважаючы, мы зьмянілі ваду і нашы рыбкі зусім ачунялі. Цяпер кормім мы іх таксама хлебам, але даем яго зусім мала—гэтулькі, каб яны маглі яго зьесьці (гэтаму навучыла нас практыка). Ваду мяняем рэгулярна адзін раз у суткі.

Плаваюць рыбкі нізка, каля самага дна і ніколі не выплываюць на паверхню вады. Удзень яны ўвесь час плаваюць і толькі ноччу застаюцца нярухомымі, але і тады, калі толькі запаліш агонь, яны зноў шпарка заплаваюць па акварыуме.

За паўтары месяцы рыбкі падрасьлі на 1 сант.

**Зомэрфэльды: Галіна і Яўгені.**

(Вёска Смаляры, Барысаўшчына).

713

ЦАНА 12 кап.

# ПАДУМАЙ!

### Што нам здаецца.

Наша вока вельмі тандэтны і кволы апарат. Ад невялікай нават напружанасьці яно стамляецца. Гэта асабліваська выяўляецца тады, калі ўражаньне хутка мяняецца.

Гэта даводзіць аб тым, што наша вока хоць і складаны апарат, але ня зусім дасканалы. Часта нашы зрокавыя ўражаньні бываюць няправільнымі, часта нашы вочы бачаць тое, чаго сапраўды няма.



Рыс. 1.

Вось хоць-бы ўзяць такія прыклады (гл. малюнак № 1). Ці не здаецца вам, што на перакрыжаваньні белых ліній ёсьць шэрыя точкі? А сапраўды іх няма. Мы бачым толькі чорныя чатырохкутнікі, яны быццам мільгацяць перад вачыма, а ад гэтага здаровы нэрв вока зморваецца і нам здаецца, што між чатырохкутнікамі ёсьць шэрыя кропелькі.



Рыс. 2.

Вы таксама, напэўна, ведаеце, што калі матаць хутка галавешкай, дык ад гэтага стане вогненае кола. Альбо калі круціцца хутка калясо, усе сьпіцы зьліваюцца між сабой у адно круглае кола. Не пасьпела зьнікнуць у вачох уражаньне ад аднэй сьпіцы, як набягае другая, трэцяя... І гэтак уражаньні ад усіх сьпіц зьліваюцца, атрымліваецца ўвогуле адно кола.

На малюнку № 2 нарысавана сьпіраль. Вазьмеце часопіс у руку, трымайце яе перад сабой і рухайце ёю быццам апісваючы невялічкае кола. Вы заўважыце, што сьпіраль сама сабою будзе круціцца.

### Струмень у перавернутай банцы.

Дастаньце шырокую шкляную банку ў форме шырокагорлай бутэлькі, заткнеце яе коркам, у якім прапячэце нагрэтым цьвіком дзьве дзіркі для тонкіх шкляных трубачак.



Адна трубка, даўжэйшая, апускаецца ніжнім канцом у бутэльку з вадою. На знадворны канец другой, больш кароткай шкляной трубкі надзеньце рызінавую трубку. Цяпер уцягвайце ў сябе паветра праз рызінавую трубку і ў сярэдзіне бутэлкі будзе біць струмэнь-фантан. Чым больш вы будзеце ўцягваць у сябе паветра, тым большы і мацнейшы будзе струмень. Калі вада, якая набіраецца ў бутэльцы, зачыніць сабой канец карацейшай трубкі, яна пачне выцякаць з бутэлькі. Цяпер вы можаце перастаць дзьмуць паветра: яно само будзе радзець у бутэльцы з прычыны адліву вады і струмень будзе біць без перапынку.

1-я друкарня БДВ. Заказ № 3309—1500. Галоўлітбел № 2178.